# Пераступіў парог міліцыі — перастаў быць чалавекам... для іх!




Шмат год назад у адной установе я працаваў разам з былым раённым пракурорам. Сумленны гэты чалавек кінуў сваю прафесію і работу. Не мог больш трываць беззаконне, тэлефоннае права і цынізм, якія панавалі ў нас за савецкімі часамі. Неаднойчы за чаркай, а дысідэнства тады мела месца на кожнай кухні, ён распавядаў мне жахлівыя выпадкі міліцэйскай разбэшчанасці, судовай несправядлівасці, пракурорскай падначаленасці не закону, а партыйным райкамам. І кожны раз заканчваў свае расповяды сяброўскім настаўленнем: **«Сябра,** — настойліва даводзіў ён, — **ніколі, ні за што, ні ў якім стане, ні пры якіх абставінах не згаджайся на міліцэйскую просьбу «прайсці» ў адзяленне і ўсё высветліць. Нават калі табе будет здавацца, што тым самым ты сапраўды дапаможаш закону, унясеш яснасць, праявіш свой грамадзянскі абавязак. Рабі што хочаш — прасіся, плач, крычы, прапануй хабар, упірайся, пагражай, вырывайся, цікай — толькі не пераступай парог паструнка. Там ты не чалавек, з табой зробяць усё, што захочуць. І ты нікому і ніколі не дакажаш сваёй праваты...».**

Гэтыя ўрокі былы савецкі пракурор даваў мне 15 год назад. Успомніў іх я зараз, калі ў рэдакцыю прынеслі і перадалі свае (не тэарэтычныя, на жаль, як мае) сведчанні нядаўнія нашы «свята-кастрычніцкія» затрыманцы, пра што мы падрабязна паведамлялі ў мінулым нумары ТМ.

Пачытайце гэтыя шчырыя споведзі. Няхай нікому не спатрэбяцца яны ў якасці «нагляднага дапаможніка». Аднак, будзем памятаць, што пры сённяшнім рэжыме ніхто не можа быць упэўнены: са мной такога не здарыцца. Нічога за пятнаццаць мінулых год не змянілася ў нашай «праваахоўнай» сістэме. Яна стала яшчэ больш залежнай ад улады. Цяпер нават «прайсці» не прапануюць, а гвалтоўна хапаюць людзей, прымяняючы да іх неадэкватныя меры ўздеяння. Пачытайце, што расказваюць тыя, хто сутыкнуўся з гэтым непасрэдна...

**Генадзь СУДНІК.**

## ЛІСТ З-ЗА КРАТАЎ



**З Валадаром Цурпанавым сябрам удалося звязацца праз адваката. Валадару была дазволена сустрэча з абаронцам, падчас якой ён пісьмова адказаў на пытанні сяброў, якія хвалююцца найперш за стан ягонага здароўя, бо Валадару за ягоную беларускасць далі 13 сутак, на час якіх ён абвесціў і трымае галадоўку, што небяспечна для ягонага здароўя і жыцця.**

# Валадар Цурпанаў

1. За тыдзень адсідкі напісаў: Заяву пракурору па нагляду за пенітэнцыярнымі (турэмнымі) установамі, звярнуўшы ўвагу на парушэнні правоў тых, хто ўтрымліваецца ў ізалятары, а менавіта:

— зубную шчотку, мыла, рушніка —нельга

— харчовыя перадачы, цыгарэты, вопратку — нельга

— прагулкі штодзённыя — нельга

— наведанне лазні ці душа — нельга. (9.11.97 г.).

Скаргу Паленюку (старшыня абласнога суда) з просьбай адмяніць пастанову суддзі Кужалевай й прызначыць справядлівы суд на падставе парушэнняў суддзёй маіх канстытуцыйных правоў —адмовіла ў перакладчыку і прадстаўніку, а таксама на падставе фактаў правакацыйных дзеянняў «операў» у цывільным. (8.11.97 г.).

Скаргу ў раённую пракуратуру з просьбай апрэтаставаць пастанову суда па тых жа матывах, што згаданыя вышэй. (8.11.97 г.).

2. Ад сябраў чакаю адное падтрымкі ў гэты час сямы. За гэта і ўсё астатняе Вялікі Дзякуй!

3. Праз пяць дзён галадавання меў сустрэчу з медычнай сястрой ці лекаркай, вынікам якой сталіся штодзённыя прагулкі для ўсіх маіх сакамернікаў і душ у той жа дзень.

Вады пітной хапае. Газэты даходзяць. Медычных аглядаў болей не было. Запатрабаў сустрэчы з урачом дзеля таго, каб абвесціць сухую галадоўку з прычыны адмовы ў паведамленні сябрам праз неабходнасць перадачы мне цёплай вопраткі. У звязку з гэтай сустрэчай патрэба ў сухой галадоўцы мажліва адпадзе.

4. Ці адразу звярнуся па стацыянарнае лячэнне пасля выхаду, аб гэтым будзем мець гаворку пасля вяртання. Першым сымптомам галадоўкі быў учорашні неглыбокі накдаўн, калі я імкліва ўскочыў з месца й тут жа ўпаў.

Родным, усім сябрам — шчыры Дзякуй і прывітанне!

**Валадар. 14.11.97 г.**

# Апошнія весткі з СІЗО

Па заяве старшыні абласнога адзялення Беларускага Хельсінскага Камітэта і шэрагу дэмакратычных арганізацый старшыня абласнога суда сп. Папенюк у панядзелак, 17 лістапада, адмяніў прысуд Г. Кужалевай у дачыненні да Валадара Цурпанава, якога на падставе рапартаў міліцыянтаў, у адсутнасці перакладчыка і прадстаўніка падсуднага (што зьяўляецца грубым парушэннем закону), яна асудзіла на 13 сутак арышту. Старшыня аблсуда не спрачаецца ў сваёй пастанове з правасуднасцю прыгавору, ***а праяўляе гуманнасць,*** улічыўшы тыя абставіны, што двое непаўналетніх дачок Валадара гадуюцца без маці. Ні слова не гаворыцца ў пастанове аб датэрміновым вызваленні і пра галадоўку, якую адпачатку затрымання абвесціў і трымаў Валадар Цурпанаў як адзіна магчымае для яго ва ўмовах ізаляцыі дзеянне супраць несправядлівасці.

У панядзелак сябры сустрэлі Валадара каля сценаў ізалятара часовага ўтрымання з кветкамі і шчырымі словамі падтрымкі і ўдзячнасці за ягоныя волю і сумленне. Яны ж выказалі шкадаванне, што ён і іншыя «святочныя» затрыманцы вымушаны ўласным здароўем аплочваць пануючыя ў краіне беззаконне і абыякавасць.

У той жа дзень Валадар па просьбе сяброў звярнуўся па медычную дапамогу, бо 10 дзён галадоўкі, да таго ж пры актыўных паводзінах яго ў адстойванні элементарных правоў сакамернікаў, не прайшлі бясследна. Кансіліўм доктараў 7-ай гарадской паліклінікі, з кансультацы спецыяліста з «лаўсанаўскай» лякарні вызначыў яму дэталёвы і няпросты рэжым выхаду з галадоўкі і вяртання да нармальнага жыцця. Аднак амаль верагодна, што шкода здароўю, нанесеная вымушанай галадоўкай, будзе напамінаць аб сабе пры кожнай нагодзе, на якую раней можна было б не звяртаць увагі... Такая высокая цана заплочана Валадаром і ягонымі закратнымі сябрамі, што прайшлі праз «пяшчотныя» рукі Галіны Кужалевай, за права «людзьмі звацца» — не самім толькі, а ўсім нам.

Сябры Валадара, шматлікія знаёмцы, калегі па працы жадаюць яму хутчэйшага выздараўлення, бадзёрасці і непахіснага настрою.

**УЛАСНАЯ ІНФ.**



# Сергей Ободовский

## Задержание.

Я не был при начале провокации. Вместе в Валерием Сивухой мы после окончания митинга пошли к себе в офис. Не успели уйти с площади, как услышали крики, а когда оглянулись, увидели группу людей, которые держали в кольце нескольких наших знакомых. Оттуда раздавались крики, было видно, что незнакомые нам молодые люди пытались скрутить тех, кого окружили. Мы быстро вернулись, у одного из нападавших, все они были в штатском, я потребовал документы. Сначала он грубо отмахнулся, но потом, когда кто-то начал громко призывать милицию, он показал свое удостоверение. Фамилии я прочитать не успел, но заметил, что в этом удостоверении МВД были только фотография, печать и фамилия. Ни звания, ни должности не было. Никаких объяснений своим действиям ни он, ни другие инициаторы столкновения не пожелали давать. Потолкались, поругались — и мы посчитали конфликт законченным. И в этот момент к месту события подбежали милиционеры в омоновской форме. Они взялись за дело круто, безошибочно скручивая нас, но не тех, кто только что среди бела дня нападал на людей, которые им не понравились, потому что пришли на площадь с «неправильными» плакатами. Другой причины я просто не вижу. Однако «за плакат» пока еще не сажают, поэтому была спровоцирована потасовка. Я получил сильный удар сзади, мне заломили руки и профессионально завернули мою же куртку мне на голову. В таком беспомощном состоянии меня втолкнули во двор соседнего дома, как я потом увидел, вместе с другими. Всех нас поставили лицом к стенке с руками за головой, били по ногам, чтобы мы раздвинули их в стороны почти до положения «шпагата». Представьте себе, кстати, можно ли в таком положении оказывать сопротивление, но именно «сопротивление» фигурировало в протоколах о нашей вине.

Все это происходило, конечно, с омоновскими матами, угрозами, чувствительными ударами. Я заявил, что поскольку не преступник, лицом к стене становитья не буду, за что получил несколько дополнительных ударов. Все это видели многие люди, которые расходились с митинга. Нам сочувствовали, многие возмущались действиями милиции. Чтобы им не мешали проводить «операцию», омоновцы перекрыли вход во двор.

Затем нас доставили в ближайший опорный пункт, где милиционеры составили протоколы, списывая их друг у друга и вслух обсуждая, что надо писать. Появился гражданский человек, который отдал несколько распоряжений милиционерам. Поняв, что это их начальник, мы попросили его представиться и разрешить нам позвонить по телефону, чтобы сообщить своим домашним о задержании. Он назвался начальником Центрального райотдела милиции майором Шиловым. На просьбу позвонить, а она исходила от меня, он поручил дежурному привлечь меня к дополнительной ответственности. В конце концов нас перевезли в Центральный райотдел. Прождав еще пару часов, мы здесь же, не покидая здания, оказались на суде.

## Суд.

В 37 году судили, как известно, тройки. У нас сегодня, спустя 60 лет, пошли дальше. Теперь судит один человек, если не считать участвующих в суде омоновцев. Судила нас Галина Кужелева, зам. председателя районного суда. Она не принимала во внимание никаких наших объяснений, в детали происшедшего не вникала. Она не предоставила Валадару Цурпанову права на переводчика (а он всегда и везде говорит на белорусском языке). Она далеко не сразу согласилась на участие в суде заявленного Иваном Ободовским своего представителя. Она верила только омоновцам, любые сомнения в их показаниях, а путаницы в пояснениях с их стороны о том, кто где стоял, кто и что кричал, кто и какие транспаранты держал в руках, как всегда, хватало — трактовала в пользу милиционеров. Она даже открыто с ними советовалась о том, как с каждым из нас поступить. Никакого объективного выяснения дела не было. Судье, да и нам, честно говоря, все заранее было ясно. А после вынесения приговора, явно довольная собой, судья Галина Кужелева цинично заявила нам: «Время ваше кончилось. Мы вам не позволим больше ходить по улицам со своими флагами и транспарантами».

## Изолятор.

Закованными в наручники нас затолкали в УАЗик вместе с другими задержанными, находившимися в «телевизоре» РОВД, и под охраной вооруженных милиционеров доставили в Изолятор временного содержания по улице Крупской, где предстояло каждому отбыть назначенные судьей «сутки». Там обыскали, раздев до исподнего, и развели по разным камерам. В моей, а это небольшая комната с тусклым освещением, тесно уставленная нарами, с маленьким зарешеченным окном, раковиной и унитазом без воды, содержалось 6 человек. Познакомились. Сокамерники были опытными сидельцами, они никак не хотели верить, что меня взяли «за политику».

У дежурного я попросил ознакомить меня и других с правилами содержания. Это было сделано, правда, через два дня, когда кончились выходные. Зам. начальника изолятора познакомил меня с правилами в своем кабинете, пожаловавшись на то, что в камерах правила, когда их вывешивают, постоянно срывают. В это можно поверить, ведь другой бумаги в камерах нет. А люди здесь безвыходно, без права на прогулки находятся весь срок наказания. Тут вам и обеденный стол (условный конечно), и туалет. Кстати, правила содержания утверждены приказом Министра внутренних дел СССР... в 1971 году и действуют, как видим, в суверенной Беларуси по сей день. Впрочем, кто знает, напиши эти правила наши законники, не будут ли они еще бесчеловечнее советских.

Кормят в камере через день. Один день один раз — кипяток, не чай, а именно кипяток, плюс побуханки хлеба на весь день. Другой день один раз — горячая еда. Вкуса ее не знаю, я объявил голодовку, но по отзывам «коллег» по камере знаю, что едой это назвать можно относительно. За все время отсидки к нам в камеру ни врач, ни представители прокуратуры, ни какой-либо общественной организации не заходили. Передачи не положены, курева не положено. Я в письменной форме написал несколько заявлений и требований о нашем содержании. Мои сокамерники относились к этому скептически, у них был на этот счет свой опыт. И бумагу, и ручку мне предоставили, конечно, не сразу. Карандаш, точнее, огрызок его, был таким, что написать что-нибудь, да еще при нашем свете, действительно было непросто. Нелегко это, вероятно, и прочитать. Поэтому такая «забота» о письменных принадлежностях и свете.

Но на мои жалобы, надо признать, начальство изолятора реагировало. Незадолго до освобождения мне даже передали полотенце, мыло, зубную пасту, газеты. Моих сокамерников это просто сразило. Вообще, условия содержания, каждодневные обыски, грубость персонала, антисанитария вокруг — все это жестоко и бесчеловечно, даже для людей оступившихся. Ведь они уже наказаны лишением свободы, изоляцией, ограничением всех прав. Для «системы», оказывается, этого мало, надо еще унижать человека на каждом шагу.

У нашего местного отделения Белорусского Хельсинского Комитета на этом поприще, как говорится, непочатый край работы. В изоляторах сидят люди, пусть даже совершившие правонарушения. Но обращаются с ними так, словно они приговорены пожизненно. Хотя и тогда обраіение с человеком должно быть гуманным.

# Ці існаваў у старажытнасці падзел на прэстыжныя для жыцця часткі горада?

Так, існаваў. У XII-XIII стст. у Магілёве такім месцам было гарадзішча на гары Магіла. У гэты час тут жылі воіны-дружыннікі і іх сем'і, а таксама некаторыя рамеснікі, якія займаліся ганчарствам, металаапрацоўкай і касцярэзным рамяствам. Як сведчаць знаходкі, сярод насельніцтва селішча, што знаходзілася на Падніколлі, таксама жылі людзі з розным сацыяльным статусам. На гэта паказваюць знаходкі бронзавых энкалпіёнаў, абразкоў і срэбнай, пазалочанай звонку пацеркі XIII ст. На тэрыторыі другога селішча, якое знаходзілася на падвор'і Барысаглебскай і Крыжаўздвіжанскай цэркваў, знаходкі значна сціплейшыя.

Не менш цікава будзе паспрабаваць рэканструяваць сацыяльную тапаграфію горада XVI-XVIII ст.ст.

Пачнем з гандлёвай (зараз Савецкая) плошчы. У 1604 г. яна займала тэрыторыю больш як 2 га, мела форму няправільнага многавугольніка. На ёй змяшчаліся 26 радоў крамаў. Дамы і «клеткі крамные» ў рысе гандлёвай плошчы ў XVI ст. мелі не толькі купцы і рамеснікі, але і шляхта з духавенствам. Кароль пасля шматлікіх скаргаў магілёўцаў загадаў у 1517 г., каб яны за гэта разам з гараджанамі «...замок тамошний Могилевский посол з ними робили и направляли и всякие и всякие повинности местские полнили и досыт им чинили».

Стары горад з'яўляўся найбольш прэстыжнай часткай Магілёва. Тут размяшчаліся галоўныя культавыя збудаванні, ратуша, дом войта, сядзіба магілёўскага купецтва, магістрацкай і цэхавай верхавіны. У другой палове XVI — пачатку XVII ст.ст. на тэрыторыі пасада канчаткова сфарміраваліся вуліцы Вялікая Шклоўская (Першамайская), Ветраная (Ленінская), Няхвёдаўская, Спаская, Мікольская (не захаваліся).

Сёння можна з упэўненасцю сцвярджаць, што на тэрыторыі квартала, абмежаванага з захаду вуліцай Няхвёдаўскай (з сярэдзіны XVIII ст. —Фарны завулак), з поўначы — Вялікай Шклоўскай, а з поўдня — Ветранай, размяшчаліся майстэрні ювеліраў і гарбароў. Пры археалагічных раскопках разам з рэшткамі пабудоў XVII-XVIII ст.ст. былі знойдзены сотні тыгляў, фрагментаў скураных вырабаў, абрэзкаў, нарыхтовак, некалькі цэлых форм абутку, збаны і глякі з-пад дзёгця. У 1577 г. таксама на гэтай вуліцы жыў Пётр дойлід.

## МАГІЛЁЎ: ДАЎНІНА І СУЧАСНАСЦЬ
### *ГІСТАРЫЧНЫ АГЛЯД І.МАРЗАЛЮКА*

На прылеглым з захаду квартале размяшчаўся комплекс будынкаў Багаяўленкага манастыра, бліжэй да гандлёвай плошчы забудова па вуліцы Шклоўскай была пераважна купецкай. На гэта паказвае і факт існавання ў гэтай частцы пасада з XVI ст. драўлянай Мікольскай царквы.

Дамы вельмі багатых гараджан знаходзіліся і побач са Спаскім манастырскім комплексам, у паўночна-усходняй частцы вуліцы Ветранай. Пры аварыйных археалагічных раскопках 1989 г. у двары дома N 5 па вуліцы Ленінскай археолагам З.Л.Яцкевічам зафіксаваны завал кафлі сярэдзіны XVII ст. плошчай каля 4 кв. м. З яго выбрана 200 (!) фрагментаў пераважна паліхромнай і зялёнапаліванай кафлі, каля сотні асобнікаў цэлых вырабаў. Сярод іх —унікальныя кафліны, медальёны з выявай «Пагоні», двухгаловым арлом на геральдычным шчыце. У гэтай жа частцы пасада ў сярэдзіне XVII ст. знаходзіўся дом магілёўскай пякаркі. Пазней (у канцы XVII ст.) тут была пабудавана капліца.

Сказаць нешта пэўнае аб сацыяльным статусе Шклоўскага пасада не ўяўляецца магчымым. Наменклатура знойдзеных вырабаў значна сціплейшая ў параўнанні са Старым горадам, верагодна пераважная частка яго насельніцтва складалася з шэраговых гараджан.

Назвы вуліц Віленскага пасада, якія захаваліся да канца XIX ст. нязменнымі, дазваляюць выказаць меркаванне, што яго паўночная частка была кампактна заселена кавалямі і гарматнікамі — тут знаходзіліся першая і другая Кавальскія вуліцы, Пушкарэвічаўскі завулак.

У другой палове XVI ст. на тэрыторыі Задубравенскага пасада існавалі Баярская, Ільінская, Каскоўская, Прычысценская, Трысненская і Камлёўская вуліцы. З XVII ст. да іх дадаліся Быхаўская, Успенская і так званая «улица до рову Струшинского». Назва Баярскай вуліцы дазваляе думаць аб яе заселенасці ваенна-служывым людам — казакамі і баярамі, аб існаванні якіх у Магілёве згадваюць пісьмовыя крыніцы таго часу. На тэрыторыі пасада таксама жылі бондары.



У XVI-XVII ст.ст. на ўзбраенні магілёўскіх гараджан было шмат відаў агнястрэльнай зброі. У інвентарных вопісах маёмасці і магістрацкіх кнігах Магілёва часта згадваюцца мушкеты, стрэльбы-янычаркі, карабіны, фузеі, пісталеты. Акрамя гэтага, Магілёў меў на ўзбраенні добрую артылерыю — у 1698 годзе ў горадзе было 53 граматы, без уліку замкавых.



## *На хлусні дружбы не пабудуеш*

Добры дзень, паважаная рэдакцыя газеты «Тыднёвік Магілёўскі»!

Піша Вам пастаянны чытач вашай газеты. Перш за ўсё хачу падзякаваць Вам за тое, што Вы ёсць. Вашая газета — адзінае праўдзівае акно ў свет для тых магілёўцаў, якім абрыдла чытаць у абласных газетах хлусню пра палепшэнне жыцця беларусаў і аднапраўляльную палітыку, якую праводзіць А.Лукашэнка.

У мяне выклікае глыбокае абурэнне тое, што Аляксандр Рыгоравіч заўсёды размаўляе на рускай мове і пераходзіць на беларускую толькі тады, калі хоча каго-небудзь абразіць. Усе нармальныя краіны былога СССР, уключаючы Расею, аднавілі сваю старажытную сімволіку. А мы? У нас таксама была спроба адраджэння, гэта значыць, беларусізацыі, але дарваўшыся да ўлады, Лукашэнка павярнуў яе ўспяць. Паступова сталі знікаць беларускамоўныя класы, мы страцілі «Пагоню» і бел-чырвона-белы сцяг. Зноў была адноўлена сімволіка савецкіх часоў: чырвона-зялёны сцяг і герб (з невялікімі папраўкамі), які ў народзе называюць «капустай». А ангельскую мову на вуліцах горада можна пачуць ледзь не часцей, чым беларускую. У якой жа краіне мы жывём? Чаму ўсё так адбываецца?

Пасля задушэння паўстання Кастуся Каліноўскага, царскі сатрап граф Міхаіл Мураўёў, па мянушцы «Вешальнік» сказаў, звяртаючыся да беларускай шляхты: «Забудьте наивные мечтания, занимавшие вас доселе, господа, и помните, что если вы не станете здесь по своим мыслям и чувствам русскими, преданными Отечеству, то вы будете здесь иностранцами и должны тогда покинуть этот край». Шмат выдатных сыноў Беларусі сталі чужаземцамі ў сваёй Бацькаўшчыне. І цяпер людзі скоса пазіраюць на чалавека, які размаўляе на беларускай мове, як на нейкага дзівака. Наша настаўніца па рускай мове заўсёды гаварыць: «У нас, в России...» Ды таксама гавораць і многія з нас. Чаму ж мы забыліся, хто мы такія?

Усё гэта вынікі больш чым двухсотгадовага расейскага прыгнёту, калі пасля акупацыі Беларусі расейскія ўлады пачалі праводзіць адкравенную русіфікацыю. Яны планамерна вытоптвалі на нашай зямлі ўсё самабытнае, беларускае: знішчалі нашы нацыянальныя праваслаўную, каталіцкую і уніяцкую веры, забаранялі размаўляць на роднай мове. Было закатавана шмат беларусаў, якія паўставалі супраць акупацыйных парадкаў. У савецкія ж часы нам удаўбілівалі ў галаву міф пра дабраахвотнае ўз'яднанне «братніх» народаў. Нават ёсць кніга «Барацьба беларусаў за ўз'яднанне з Расіяй». Лукашэнку таксама патрэбен гэты міф пра два братнія народы, каб знайсці падставу для адраджэння Савецкага Саюзу. Сапраўднымі ж братнімі народамі для беларусаў з'яўляюцца палякі і літоўцы, з якімі напрацягу многіх стагоддзяў жылі мірна і дружна. Ведома, не супраць мы жыць у дружбе і па-суседску з расейцамі. Толькі гістарычная хлусня пра векавыя дружбу і братства тут зусім непатрэбныя.

Пакуль яшчэ не позна, мы павінны адрадзіць беларускую мову і спыніць русіфікацыю. Толькі тады мы будзем жыць у Беларусі. Калі мы не зробім усяго гэтага, наша мова памрэ і разам з ёю і мы, беларусы.

Я шчаслівы, што ёсць такая газета «Тыднёвік Магілёўскі», якая бадай што адзіная ў вобласці друкуецца на беларускай мове. Жадаю Вам і надалей несці святло роднай мовы ў душы і сэрцы людзей. Поспехаў Вам, творчага плёну і вялікага тыражу!

**Алесь БУЙНІЦКІ,**
**навучэнец каледжа.**



## *Дарагія дзеці і дарослыя!*

*Магілёўскі абласны тэатр лялек віншуе ўсіх с надыходзячым Новым годам!*

*Дзед Мароз і Снягурачка ўстрайваюць традыцыйныя Навагоднія ранішнікі і прымаюць заказы ад прыватных асобаў, а таксама арганізацый за наяўны і безнаяўны разлік.*

*Ёлка ў тэатры лялек — найлепшая ў горадзе!*

*Вас чакаюць захапляючыя казачныя прыгоды і падарункі!*

*Тэлефон для даведак: 25-84-89; 22-86-83.*




## Адказы на крыжаслоў, апублікаваны ў мінулым (28) нумары газеты «Тыднёвік Магілёўскі».

**Па гарызанталі:** 4. Дабрадзей. 7. Тупат. 8. Лытка. 11. Палац. 12. Карак. 13. Гузак. 16. Непавага. 17. Прыдатак. 18. Петрычка. 20. Змаганец. 23. Гвалт. 24. Кавун. 26. Сарна. 27. Сцюжа. 28. Золак. 29. Пакаранне.

**Па вертыкалі:** 1. Абутак. 2. Паветра. 3. Дзялок. 5. Сукала. 6. Скруха. 9. Маленства. 10. Запаленне. 14. Пашча. 15. Вырак. 19. Рыльца. 21. Аматар. 22. Кватэра. 24. Краска. 25. Нізіна.

## *Абаронім матчыну мову*

Шаноўныя магілёўцы! Апошнім часам шматкроць ўзмацніўся ўціск з боку афіцыйных уладаў у сфэры адукацыі на беларускую мову. Таму ініцыятыўная група грамадзянаў, што ўваходзяць у склад Магілёўскае філіі Маладога Фронту, падала заяву на пікет з мэтай прыцягненьня ўвагі грамадзкасьці да праблемаў навучаньня школьнікаў на беларускай мове. Адказ гарвыканкама па гэтай справе ў пэўнай ступені будзе сведчыць аб маральнасьці нашае ўлады і, ў выніку станоўчага вырашэньня, дазволіць нам афіцыйна запрасіць ўсіх неабыякавых 29 і 30 лістапада а 12-й гадзіне да гатэлю «Днепр».

**Асобаў, зацікаўленых у вырашэньні моўных праблемаў Магілёўшчыны, чакаем кожны панядзелак ды пятніцу на адрас: вул. Ленінская, 27-50. Будзьма ўдзячныя за вашы прапановы й парады, ды інфармацыю на тэму беларускамоўнага навучаньня.**

**АРГКАМІТЭТ.**


Рэдактар Генадзь СУДНІК




Інфармацыйна-аналітычная газета, заснаваная Магілёўскай гарадской асацыяцыяй "КОЛА СЯБРОЎ".

*Зарэгістравана ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку за № 831.*

Газета выходзіць па пятніцах, пераважна на беларускай мове..

Кошт аднаго асобніка газэты ў гандлі праз сістэму Саюздруку — 2.000 рублёў. У свабодным продажы і ў грамадскіх распаўсюджвальнікаў — па дамоўленасці.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 212030 г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

ТЭЛЕФОНЫ: 31-04-15, 22-97-82

Газета набрана і надрукавана афсетным спосабам у Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М.Свярдлова. Зак. 29. Тыраж 2100 асобнікаў.